■ АПК і рынак

# ЦЯЖКІ ПАВАРОТ,

## або Як жывёлаводы Клецкага раёна, хоць і марудна, але нарошчваюць вытворчасць прадукцыі. Аб гэтым гутарка нашага карэспандэнта з галоўным заатэхнікам райсельгасхарча В.М.Сінькевіч.

***-- Валянціна Мікалаеўна, здаецца, усе мы пачынаем разумець, што які б ні быў цэнавы прэсінг прадпрыемстваў-манапалістаў у адносінах да вёскі, трэба неяк "утрымацца ў сядле", карміць людзей мясам, малаком.***

-- Так, паступова ўсталёўваюцца менавіта такія тэндэнцыі. Нідзе не дзенешся. Гаспадарская прадпрымальнасць, надзеі на саміх сябе пакрысе бяруць верх. У сярэднім па раёне па стану на 1 студзеня мы не знізілі пагалоўе кароў, свіней. Некаторыя калгасы наадварот павялічылі дойны статак. Напрыклад, калгас "Шлях да камунізму", дзе галоўным заатэхнікам Ала Сандрозд.

Тут здолелі ўмела арганізаваць племянную работу на фермах. Дзейнічаюць кармацэхі. Летась надоена ад кожнай каровы больш чым па 3.300 кілаграмаў малака. Тут і свінаферму не кідаюць на волю лёсу. У вёсцы Вароніна ўтрымліваецца амаль 2.000 свіней. У 1993 годзе атрымана 4.500 парасят. Частку іх прадалі насельніцтву, а таксама выручылі суседні калгас "Чырвоны сцяг", які пабудаваў новую ферму і мае патрэбу ў маладняку.

***-- Выходзіць, той-сёй з кіраўнікоў гаспадарак зразумеў, што свінагадоўлю трэба развіваць, яе рана "спісваць у архіў"?***

-- Безумоўна, хаця не ўсюды гэтая галіна вытворчасці дае прыбытак, але ж трэба шукаць нейкія крыніцы грашовых паступленняў. Ды, зрэшты, навошта шукаць, калі яшчэ нашы дзяды і прадзеды не ўяўлялі жыцця без вепрука ў хляве. Акрамя калгаса "Чырвоны сцяг", пачынаюць расшыраць або аднаўляць свінафермы калгасы імя Ульянава, імя Чкалава, племзавод "Чырвоная зорка". Вопыт сведчыць, што і на параўнальна невялікіх фермах можна паспяхова нарошчваць вытворчасць свініны. Прыклад -- калгас "Праца", дзе не "хістаюцца" пад подыхам рыначных вятроў, а працуюць руплiва, настойліва. Тут і маладняк зберагаюць, і адкорм свіней арганізаваны належным чынам. Старшыня праўлення І.В.Горбач лічыць, што за кошт сваіх уласных фуражных рэсурсаў сёлета ўдасца не толькі "выстаяць", але і павялічыць свінапагалоўе, палепшыць эканамічныя паказчыкі. Між іншым, у гэтым калгасе амаль на 30 кароў вырасла і матачнае пагалоўе. Так што ўсё залежыць ад таго, які курс праводзіць кіраўніцтва гаспадаркі.

***-- Калі многія пачалі аднаўляць закінутыя свінафермы, дык як быць буйному комплексу ў калгасе "Кастрычнік"?***

-- Тут ёсць шэраг няпростых праблем, але, зрэшты, і комплекс пачынае "ажыўляцца". Пагалоўе свіней вырасла з 12,8 тысячы галоў да 15 тысяч. Павысіліся сярэднясутачныя прыбаўленні жывёлы ў вазе на адкорме. Калгас пабудаваў цэх па перапрацоўцы свініны на месцы. Гэта дасць магчымасць мець свежую капейку, каб набываць фураж, весці рамонт блокаў, і гэтак далей.

***-- Вы шмат гадоў працуеце ў жывёлагадоўлі. Ці няма трывогі, што кадры ў вёсцы "разбягуцца", што на фермах застануцца толькі пенсіянеры?***

-- Наадварот, нямала маладых людзей ідуць сёння "запісвацца ў жывёлаводы". Мы нядаўна праводзілі ў раёне злёт перадавікоў, дык там у асноўным былі даяркі, цялятніцы, свінаркі ва ўзросце 35--45 гадоў. Гэта абнадзейвае. Іншая справа, што трэба, каб гэтыя працаўнікі адчувалі дапамогу і падтрымку з боку кіраўніцтва гаспадарак, каб аплата працы адпавядала іх нялёгкай рабоце. Крыўдна, калі, скажам, на масласыраробным заводзе вахцёр атрымлівае больш, чым перадавая даярка.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

# ФІРМЕННАЯ – ЗНАЧЫЦЬ СВЕЖАЯ

Фотарэпартаж





*Свежую прадукцыю Старадарожскага масларобнага завода можна будзе хутка купіць у фірменным магазіне. Яго будаўніцтва завяршаецца ў раённым цэнтры. Тут размесцяцца гандлёвая зала і кафэ.*

*Штодзённа на прадпрыемстве перапрацоўваюць каля 55 тон малака, з якога вырабляюць масла, малако, фасаваную пахту, тэхнічны казеін.*

***На здымках:*** *участак па вытворчасці малака; мікрабіёлаг Тамара **Чуднова**; члены брыгады, занятыя на ўзвядзенні магазіна; будаўніцтва ідзе поўным ходам.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# ЗБОЙ СПЫНЕНЫ

## *Перспектывы для нарошчвання вытворчасці малака ёсць*

Сёлета дзякуючы дастаткова арганізаванай рабоце жывёлаводаў, лепшай забяспечанасці жывёлы кармамі, павышэнню рацыянальнасці выкарыстання фуражу валавыя надоі малака ў калгасах і саўгасах вобласці за першыя тры месяцы года ўзраслі на 11,7 тысячы тон і дасягнулі 107 працэнтаў у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года. Надой ад каровы за гэты час павялічыўся на 43 кілаграмы. Палепшылася якасць малака. Каля 92 працэнтаў яго рэалізавана першым гатункам. Гэта дазволіла за квартал паставіць дзяржаве 137,6 тысячы тон прадукцыі, што на 8,2 тысячы тон больш за мінулагодні ўзровень.

Разам з тым не ўсюды малочнатаварныя фермы працавалі паспяхова. Так, нізкія тэмпы вытворчасці ў першым квартале захоўваліся ў гаспадарках Бярэзінскага, Валожынскага, Капыльскага, Салігорскага і некаторых іншых раёнаў. А ў Стаўбцоўскім узровень вытворчасці малака ў параўнанні з першым кварталам мінулага года нават знізіўся.

Аднак прыемна, што ўсе раёны /акрамя Стаўбцоўскага/ павялічылі прадуктыўнасць дойнага статка. А ў Барысаўскім, Вілейскім, Маладзечанскім, Мядзельскім, Слуцкім, Смалявіцкім і Уздзенскім раёнах прадуктыўнасць кароў узрасла на 58--97 кілаграмаў. Праўда, у Бярэзінскім, Валожынскім, Клецкім і Салігорскім раёнах яна ўзрасла нязначна, хаця ўмовы для работы ферм усюды былі практычна аднолькавыя.

Усё, вядома, у арганізацыі справы, у адносінах да людзей, якія працуюць на фермах, іх маральнай і матэрыяльнай зацікаўленасці. Нягледзячы на тое, што колькасць кароў за апошнія тры гады ў вобласці зменшылася больш як на 55 тысяч, або на 14 працэнтаў, за тры месяцы сёлетняга года гэтая адмоўная тэндэнцыя канчаткова не спынена. Матачнае пагалоўе скарацілася яшчэ на 4,9 тысячы галоў, што складае адзін працэнт. Асабліва шмат выразана кароў у студзені і сакавіку сёлетняга года ў гаспадарках Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Старадарожскага, Стаўбцоўскага, Уздзенскага і Чэрвеньскага раёнаў. Калі б пагалоўе кароў засталося на ўзроўні мінулага года, то вобласць атрымала б не менш як 15 тысяч тон малака дадаткова.

Трывожнае становішча з закупам малака ў насельніцтва. У гэтым сектары дойны статак павялічыўся. І ў значнай ступені дзякуючы дапамозе калгасаў і саўгасаў. Аднак насельніцтва неахвотна прадае малако дзяржаве. За тры месяцы рэалізавана ўсяго 4,8 тысячы тон, што складае 37 працэнтаў да ўзроўню мінулага года. У Вілейскім -- толькі 2, Валожынскім -- 14, Маладзечанскім і Мядзельскім -- па 18 працэнтаў.

Прычына адна: няма зацікаўленасці ў здатчыкаў прадаваць лішкі малака дзяржаве. Мала таго што ім даводзіцца рэалізоўваць прадукцыю па нізкай цане, дык і грошы за яе атрымліваюць толькі праз два-тры месяцы, абясцэненыя інфляцыяй. Таму тут павінна быць прынята нейкае рашэнне на дзяржаўным узроўні, каб зацікавіць здатчыкаў.

Неўзабаве пачнецца перавод на пашавае ўтрыманне жывёлы. Цяпер -- перыяд набыцця і рамонту электрапастухоў, выгароджвання прагонаў на пашы, баранавання і падкормкі яе. І вось даводзіцца канстатаваць, што ў гэтай рабоце маюць месца сур'ёзныя недахопы. Па стану на 12 красавіка ў вобласці не хапае каля 700 /15 працэнтаў/ электраагароджаў. Для выгароджвання прагонаў патрэбна набыць звыш 200 тон дроту. У многіх раёнах няма электрабатарэек да электрычных пастухоў. Такое становішча ў Барысаўскім, Дзяржынскім, Валожынскім, Клецкім, Любанскім, Нясвіжскім, Стаўбцоўскім і іншых раёнах.

Хочацца нагадаць, што ў Сенніцкай ПМК /Мінскі раён/ у наяўнасці значная колькасць адрамантаваных электраагароджаў. База "Фаніпаль" вытворчага аб'яднання "Аблаграспецмантажкамплект" прапануе новую электраагароджу. На Слуцкім заводзе металавырабаў ёсць дрот для электрапастухоў і выгароджвання жывёлапрагонаў. Не чакаючы завозу электрабатарэек на базы, іх можна купіць у магазінах: цана іх цяпер усюды аднолькавая.

Калі ў мінулыя гады пры пераводзе жывёлы на пашавае ўтрыманне шырока выкарыстоўвалі на зялёны корм жыта, то сёлета яго будзе мала для гэтай мэты ці яно ўвогуле не будзе выкарыстоўвацца. Жывёле адразу будзе прадастаўлена паша з травой ранніх тэрмінаў выспявання. Таму важна пры пераходзе на пашу карміць жывёлу і наяўнымі кармамі, якія ўваходзяць у зімовы рацыён.

*Валянціна КАЯЛОВІЧ, вядучы спецыяліст аддзела жывёлагадоўлі аблсельгасхарча.*

# ВЫТВОРЧАСЦЬ І РЭАЛІЗАЦЫЯ

## малака дзяржаве за тры месяцы 1994 года

Графы: 1 -- раёны, 2 -- валавая вытворчасць да адпаведнага перыяду 1993 г. (у прац.), 3 -- пагалоўе кароў да адпаведнага перыяду 1993 г. (у прац.), 4 -- надой ад каровы (кг), 5 -- прыбаўка надою ад каровы ў параўнанні з 1993 г. (кг), 6 -- рост нарыхтовак у параўнанні з 1993 г. (у прац.), 7 -- закуплена малака ў насельніцтва ў параўнанні з 1993 г. (у прац.).

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вілейскі | 119 | 95 | 490 | 97 | 111 | 2 |
| Мядзельскі | 118 | 98 | 377 | 68 | 116 | 18 |
| Барысаўскі | 115 | 99 | 522 | 72 | 115 | 24 |
| Слуцкі | 114 | 100 | 531 | 69 | 117 | 57 |
| Маладзечанскі | 113 | 98 | 452 | 63 | 113 | 18 |
| Уздзенскі | 112 | 98 | 417 | 57 | 109 | 52 |
| Крупскі | 111 | 98 | 366 | 44 | 115 | 23 |
| Смалявіцкі | 110 | 100 | 609 | 64 | 116 | 45 |
| Пухавіцкі | 108 | 100 | 434 | 32 | 112 | 68 |
| Мінскі | 108 | 99 | 624 | 59 | 115 | 65 |
| Чэрвеньскі | 108 | 97 | 418 | 48 | 111 | 26 |
| Лагойскі | 107 | 96 | 421 | 41 | 104 | 23 |
| Нясвіжскі | 106 | 99 | 674 | 40 | 103 | 41 |
| Любанскі | 106 | 99 | 509 | 34 | 101 | 43 |
| Старадарожскі | 105 | 99 | 522 | 35 | 98 | 35 |
| Дзяржынскі | 104 | 99 | 497 | 26 | 108 | 53 |
| Клецкі | 103 | 100 | 661 | 20 | 94 | 37 |
| Капыльскі | 102 | 98 | 519 | 22 | 101 | 37 |
| Бярэзінскі | 101 | 100 | 371 | 8 | 94 | 32 |
| Салігорскі | 101 | 99 | 495 | 11 | 101 | 53 |
| Валожынскі | 101 | 98 | 314 | 14 | 86 | 14 |
| Стаўбцоўскі | 95 | 97 | 537 | -11 | 92 | 35 |
| Па вобласці | 107 | 99 | 493 | 43 | 106 | 37 |

Сумнавата...

# НАВОДШЫБЕ

**Цяпер ужо цяжка ўстанавіць, каму першаму прыйшла ў галаву думка "закрыць" на Чырвонай плошчы царкву кінатэатрам. Высветліць удалося толькі тое, што ініцыятыва зыходзіла ад тагачасных партыйных і савецкіх работнікаў. А іх вуснае слова тады было законам. Сказана -- зроблена. І ніякіх пярэчанняў.**

І вось знесены магазін "Галантарэя", частка плошчы абнесена агароджай, распачаліся будаўнічыя работы... У 1973 годзе запрацаваў кінатэатр "Кастрычнік". Словам, закрыў ён сваім гмахам царкву. Толькі, вядома ж, не адбіў ад яе вернікаў.

Была і яшчэ адна акалічнасць -- вырашылі "прывязаць" кінатэатр да кацельні райспажыўтаварыства, бо тады забудова вуліцы Савецкай была яшчэ ў першапачатковых праектах.

І вось мінула два дзесяткі гадоў. У чэрвені 1993 года старшыня райспажыўтаварыства А.Ю.Луцэвіч даслаў, без папярэдніх перагавораў, пісьмо дырэкцыі раённага філіяла МАВП "Кінавідэапракат", у якім паведаміў, што ацяпляльныя сеткі кінатэатра адключаны: вырашайце пытанне і шукайце аўтаномнае ацяпленне. Вось так і лопнула тая "прывязка" нібы мыльная бурбалка. Застаецца дадаць, што былыя ваяўнічыя атэісты цяпер не супраць царквы...

Дык што ж прынесла такое недальнабачнае кіраўніцтва забудовай гарадскога пасёлка? Сапсавана гістарычная Чырвоная плошча, кінатэатр аказаўся наводшыбе, у старым цэнтры, удалечыні ад новых жылых масіваў. Яго амаль немагчыма падключыць цяпер да ацяпляльных трас Узды, і гэтай зімою будынак увогуле не ацяпляўся. Сезон неяк перажылі. А далей?..

Словам, адбылося тое, што адбылося. Шкада, што многія "ўладаносцы" жылі і жывуць адным днём, не бачаць грамадскай перспектывы на два-тры дзесяткі гадоў наперад.

*Іван БАРТОШ, дырэктар Уздзенскага раённага філіяла аб"яднання "Кінавідэапракат".*

■ БЕЗ ГРИФА "СЕКРЕТНО"

# "Сексоты", стукачи... Кто же они на самом деле?

**Материал этот не совсем обычный. Его главный герой -- тайный осведомитель КГБ. Сегодня, когда органы госбезопасности предаются чуть ли не анафеме, немало гневных слов было сказано и в адрес ее тайных агентов. О том, насколько это справедливо, читатель может судить, познакомившись с признанием одного из этих людей.**

ПОЕЗД "Минск-Новороссийск" шел медленно, останавливался на каждом полустанке. Вагон был полупустой -- в наше нестабильное время не каждый решается путешествовать даже в сезон летних отпусков.

Моим попутчиком оказался немолодой человек. Спокойный и рассудительный. Серые глаза смотрели поверх очков в роговой оправе внимательно и изучающе. В купе мы ехали вдвоем.

Далекий путь располагает к быстрому знакомству, неторопливым беседам. Мой попутчик, назвавшийся Андреем Петровичем, долго расспрашивал меня о жизни. Узнав, что я долгие годы работал в военной юстиции, отрицательно покачал головой:

-- Нет, с законниками мне общаться не приходилось. Не было их в нашем роду. Я окончил политехнический. Работал, в основном, в разных научно-исследовательских институтах.

Андрей Петрович достал из саквояжа кипу газет и журналов и углубился в чтение. Долго и внимательно читал, потом с неудовольствием бросил на столик очередную прочитанную газету. Я мельком взглянул. "Совершенно секретно" -- значилось на издании. Заголовок статьи, которая, видимо, и не понравилась Андрею Петровичу, гласил: "Игра в поддавки. История одной вербовки". Претенциозная статья поэта Евгения Евтушенко. Я и сам недавно, просматривая эту газету, недоуменно пожимал плечами: зачем понадобилась столь сомнительного свойства публикация известному поэту? Сотрудничал с КГБ -- значит, сотрудничал. Отказался -- значит, отказался. Это дело личное. А КГБ, как известно, выполняет задачи государственные и действует в интересах государства.

Андрей Петрович заметил с ноткой возмущения в голосе:

-- Опять эти надоевшие всем "сексоты", "стукачи", КГБ, негласные агенты... К лицу ли об этом говорить тому же Евгению Евтушенко? Если и обращались к нему сотрудники КГБ, то, значит, нужно было. Я тоже, между прочим, много лет поддерживал с ними связь, был агентом КГБ. Разве это предосудительно?

-- Действительно, -- согласился я, -- ничего необычного или удивительного в этом нет. Во всех странах у полиции, уголовного розыска, органов разведки и контрразведки есть свои помощники, гласные или негласные агенты, осведомители. Ведь это только в книжках комиссар Мегрэ безошибочно идет по следу преступника. В реальной жизни все обстоит гораздо сложнее.

И не удержался, спросил его:

-- Вы помогали органам госбезопасности добровольно, сознательно?

-- Конечно, -- кивнул мой собеседник. -- А началось все это давно, вскоре после войны. Тогда я был еще студентом. Однажды зимним вечером возвращался из института. На улице меня кто-то окликнул. Оглянувшись, я увидел стоявшего рядом незнакомого мужчину средних лет с вполне располагающей внешностью. Он представился сотрудником МГБ -- так в те годы называлось это ведомство -- и спросил, есть ли у меня свободное время. Я, понятно, немного растерялся, но ответил положительно. "Очень хорошо, -- заметил тот мужчина, -- в таком случае мне хотелось бы, если вы не против, побеседовать с вами, обсудить несколько вопросов". Сели в машину, которая стояла неподалеку, приехали в здание МГБ.

-- И что за разговор состоялся у вас в стенах такого грозного ведомства -- МГБ? -- поинтересовался я.

-- Поначалу, конечно, я был сильно шокирован. В голове "прокрутил" всякие варианты: в связи с чем мной могла бы заинтересоваться госбезопасность? Рассказывали в своей студенческой среде разные политические анекдоты? Критически отзывались об очередной речи "вождя народов"? Но Павел Станиславович, так звали сотрудника, пригласившего меня в МГБ, вскоре развеял все сомнения, перевел разговор в другое русло. Его интересовали не анекдоты, а оружие, которым располагала группа знакомых мне студентов. Один из них, по фамилии Вандышев, даже предлагал мне однажды съездить в лес и поупражняться в стрельбе. Мол, в жизни это тоже может пригодиться.

-- Мы пытаемся разобраться в этой истории, -- заметил Павел Станиславович, -- и надеемся на вашу помощь.

-- И что же из этого вышло?

-- У той самой студенческой "компании" на вооружении оказалось три автомата и два пистолета. А патронов к ним -- несчетное количество. По выходным выезжали в глухомань, тренировались в стрельбе, отрабатывали сценарий нападения на какой-то объект. Одним словом, с моей помощью преступление было предотвращено.

-- МОЖЕТ быть, могли бы рассказать еще что-нибудь?

-- Отчего же, пожалуйста. Не случай, а целая детективная история. Много лет назад под Минском злоумышленники убили председателя поселкового Совета и парторга колхоза. Это уже политическое убийство, террористический акт. У работников МГБ было предположение, что о преступлении знает одна пожилая женщина, местная жительница. Но вскоре она попала в больницу и умерла. Тогда Павел Станиславович при встрече со мной сказал, что та самая женщина, когда лежала в палате, много беседовала со своим лечащим врачом по имени Казимир. Могло статься, что поделилась с ним и обстоятельствами совершения преступления. А Казимир к тому времени уехал в санаторий. Пришлось мне по просьбе Павла Станиславовича поехать вслед за ним. В санатории я познакомился с тем врачом, расположил его к откровенным беседам. Казимир сказал, что та больная пациентка поведала ему о кошмарном убийстве в их поселке, она случайно стала очевидцем преступления. Узнала в одном из преступников местного жителя, бывшего полицая, который где-то скрывался. Когда вернулись из санатория, Казимир по моему совету пошел в МГБ и рассказал все, что знал о теракте. Убийцы были пойманы и преданы суду. Так удалось раскрыть тяжкое преступление.

Поезд шел по Украине, которая теперь считается заграницей. На одной из станций в вагон зашли люди в пограничной форме -- сержант и двое солдат. Не зная что делать и оттого чувствуя себя неловко, потоптались в проходе. Сержант для вида спросил, сколько в вагоне пассажиров. Проводника на месте не оказалось, пришлось одному из нас ответить, что едет 23 человека. Пограничники этим удовлетворились и ушли восвояси. Андрей Петрович, сняв очки, с угрюмым видом наблюдал за этой пограничной процедурой. Лишь в Таганроге, купив по случаю крупной, со сливу, свежей черешни, мой попутчик, немного повеселев, сказал:

-- Американцы радуются. Наконец-то удалось свалить Советский Союз. Особенно довольны заморские спецслужбы: теперь можно свободно разъезжать где им заблагорассудится. Смотреть, расспрашивать, фотографировать, записывать. Они давно мечтали о такой вольготной жизни в нашей стране, я не раз сталкивался с этим, работая в секретном НИИ. Последние двадцать лет я получал задания от госбезопасности по изучению интересующих ее иностранцев как у себя в стране, так и за рубежом.

АНДРЕЙ Петрович, видимо, что-то вспомнив, помолчал, погрузился в свои мысли. Потом продолжил:

-- Был такой случай. Выполняя очередное поручение моих руководителей, я изучал находившегося у нас заморского научного работника, назовем его Джон. Мне было сообщено, что до приезда к нам он выполнял задание иностранной спецслужбы в одной арабской стране. С Джоном я и раньше общался по служебным делам, у нас сложились хорошие отношения. Он бывал у меня дома, я навещал его в номере гостиницы.

Как-то встретились с ним в ресторане по поводу дня его рождения. Затем долго прогуливались по городу, беседовали о разных вещах. В удобный момент Джон перевел разговор на научную тему, попросил дать ему возможность ознакомиться с материалами технологической разработки, одним из авторов которой являлся и я. За услугу обещал щедро расплатиться. Поскольку я внутренне уже был готов к такому повороту событий, мне удалось уйти от продолжения разговора на эту тему. Таким образом, КГБ с моей помощью удалось убедиться в истинных целях пребывания Джона в нашем НИИ.

-- А не ведет ли такая подозрительность к шпиономании, недоверию людей друг к другу? -- прямо спросил я своего собеседника. -- Ведь были же такие периоды в истории нашей страны. Доносительство считалось чуть ли не патриотизмом.

-- К сожалению, такие периоды были, да давно прошли, вы и сами прекрасно об этом знаете. Был и у меня такой руководитель из КГБ. Высокомерный, заносчивый. Не просил, а требовал подслушивать разговоры, не рассказывает ли кто антисоветские анекдоты. Я отказался сотрудничать с ним. Вскоре его уволили из КГБ за профнепригодность. Но это все же исключение, как я сам убедился. Органы госбезопасности сами освобождаются от случайных людей.

-- И у вас никогда не возникало угрызений совести, сомнений, желания прекратить свои связи с КГБ?

-- Совесть моя чиста и спокойна. Я помогал не КГБ, а обществу, людям, и в том числе самому себе, чтобы наша жизнь была хоть немного спокойнее. Теперь, правда, в прессе поднялась и не утихает мутная волна дилетантских суждений о ненужности и даже предосудительности использования агентов. Вот и этот известный поэт "саморазоблачается" и рассказывает, как "плохие дяди" -- гэбисты хотели вовлечь его в свою секретную деятельность. Депутат облсовета бьет себя в грудь кулаком, говорит, что он был агентом и сожалеет об этом. Журналист требует, чтобы служитель церкви признался, что его "вербанул" комитет. Еще раз скажу: без агентуры не может работать ни полиция, ни милиция, ни госбезопасность. Важно только, чтобы эта работа велась законными методами. Она сейчас только так и ведется, я это хорошо знаю...

Андрей Петрович вздохнул и принялся собирать свои вещи. На одной из станций, попрощавшись, вышел. Я поехал дальше. Меня не обескуражила откровенность случайного попутчика, тем более что я, десятки лет проработав в органах военной юстиции, сопоставлял его слова и суждения с фактическим положением дел в работе правоохранительных органов, к которым относится и КГБ. Видел, что говорил он правильно, со знанием дела и объективно. Потому и солидарен с его мыслями.

*Михаил ТОКАРЕВ.*

